ISSN 0700 - 5172

***ВАЙЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! – К. Каліноўскі***

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!



# ЗВАЖАЙ

Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў

**Z V A Z A J – Magazine, published quarterly by** Liaison Committee of Byelorussian **War Veterans.** ***Address: ZVAZAJ, 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont., M4K 1C2***

Год 9 Сакавік, 1982 № 1 (25)

## ФОНД БЕЛАРУСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ

Вестка аб сьмерці Біскупа Часлава Сіповіча, які памёр у Лёндане ў нядзелю 4-га кастрычніка, разыйшлася сумным рэхам па ўсім сьвеце, выклікаючы пачуцьцё страты й жалю сярод ягоных шматлікіх прыяцеляў і знаёмых. Побач з жалем, аднак, у сэрцах усіх, хто меў шчасьце ведаць Уладыку Часлава, ня можа не нарадзіцца пачуцьцё ўдзячнасьці Богу за яго й за ўсё тое, што яму ўдалося зьдзейсьніць. Асабліва ўдзячнымі павінны быць Беларусы. Уладыку Чаславу прыйшлося правесьці большую частку свайго жыцьця далёка ад Бацькаўшчыны, але гэта ніколі не аслабіла ягонай гарачай любові да яе і да беларускага народу. Ен імкнуўся ўсімі сіламі, каб Беларусы змаглі заняць належнае месца ў Божай сям'і народаў і каб непаўторныя скарбы беларускай культуры сталіся ўсеагульным здабыткам. Вымоўным доразам гэтага зьяўляецца Беларуская бібліятэка й музэй імя Францішка Скарыны ў Лёндане, ініцыятарам і закладчыкам якой быў Уладыка Часлаў і для якой ён пасьвяціў шмат працы й сілаў у апошнія дзесяць год свайго жыцьця.

Сяньня Бібліятэка зьяўляецца адзінай свайго роду беларускай навуковай установай з унікальнымі кніжнымі, рукапіснымі й музэйнымі зборамі. За дзесяць гадоў свайго існаваньня зь ейных фондаў мелі нагоду карыстацца больш за 500 студэнтаў і вучоных з розных краін сьвету, ў выніку чаго ў заходнім друку зьявілася некалькі дзясяткаў прац на беларускія тэмы. Бібліятэка зьяўляецца таксама цэнтрам бібліяграфічнай інфармацыі аб Беларусі. Нездарма ведамы беларускі пісьменьнік Сакрат Яновіч назваў яе "вакном нашай культуры на заходні сьвет".

У ліпені 1979 году Бібліятэка была афіцыяльна залегалізаваная, як незалежная навукова-харытатыўная ўстанова (**Charitable Trust**). Ад таго часу кіраўніцтва ею знаходзіцца ў руках адмысловай Бібліятэчнай рады (**Board of Trustees**), у склад якой уваходзяць прадстаўнікі беларускага каталіцкага й праваслаўнага духавенства й беларускага грамадзтва ў Англіі, а таксама ангельскія вучоныя славісты, якія працуюць у галіне беларускіх студыяў. Першым старшынём Рады быў Уладыка Часлаў.



*БІСКУП ЧАСЛАЎ СІПОВІЧ*
*1914 – 1981*

Утрыманьне Бібліятэкі зьвязана зь вялікімі коштамі. Каб існаваць і разьвівацца ў сяньняшні дзень, ей трэба прынамся 12 тысяч ангельскіх фунтаў (каля 25 тысяч амэрыканскіх даляраў) у год. Бязумоўна, такіх вялікіх патрэб ня могуць задаволіць прынагодныя ахвяры. Найлепшай разьвязкай было-б, каб Бібліятэка мела адпаведныя непарушныя фонды, якія прыносілі-б гадавы даход у вышыні ўспомненай сумы. Гэта забясьпечыла-б ей будучыню й матар'яльную незалежнасьць. На жаль, такіх фондаў бібліятэка ня мае й таму стварэньне іх ёсьць справай вялікай важнасьці.

ВІТАЕМ НАШЫХ СУРОДЗІЧАЎ ЗЬ ВЯЛІКІМ САКАВІКОМ!

## ВАЙНА 1812 ГОДУ Й БЕЛАРУСЬ

( Заканчэньне. Пачатак гл. у № 24)

У выніку разгрому Напалеонам нямецкай імпэрыі, яна распалася на шэраг малых нямецкіх дзяржаваў. Паміж Расеяй і Напалеонам пачалося дыпляматычнае змаганьне за гегемонію над гэтымі дзяржавамі. Дыпляматы расейскай імпэрыі, каб схіліць на свой бок сымпатыі гэтых дзяржаваў, ужывалі ўсе мэтады, уключна з пагрозамі, хлусьнёй, хабарамі на дварох нямецкіх прынцаў і паводкай прапагандовай літаратуры.

Аднак, — кажа Фрыдрых Энгельс, — доля спрыяла Немцам, бо яны апынуліся пад французкім, а не маскоўскім уплывам. Французкае панаваньне было для іх меншым злом, чымся расейскае, бо пад ціскам Французаў малыя нямецкія дзяржавы мусілі зьліквідаваць злоўжываньні старога грамадзкага ладу.

У абліччы сваіх няўдачаў, дыпляматы расейскай імпэрыі пастанавілі прапанаваць Напалеону падзяліць сьвет: Захад — для Напалеона, Усход — для Аляксандра. Але адначасна, за плячыма Напалеона, цар Аляксандар спрабаваў дамовіцца з Ангельшчынай, ня гледзячы на тое, што Напалеон зарганізаваў супраць яе блякаду. У выніку, — адзначае Энгельс, — і выбухла вайна 1812 году.

Напалеон гэну вайну праграў, бо ня ўлічыў прыродных умоваў усходняе Эўропы. Маскоўская імпэрыя, ніколі ня будучы такой магутнай, пачала захоп чужых земляў. Тут маем справу з чыстум і простым рабункам, — піша ў сваім артыкуле Фрыдрых Энгельс. Пасьля таго, як цар Аляксандар дамовіўся з Бурбонскім міністрам Галейранам, пад расейскай эгідай быў створаны г. зв. "сьвяшчэнны саюз". А гэта была змова расейска-аўстрыйска-прускіх валадароў супраць іхных народаў.

Так насьвятляе падзеі 1812 году Фрыдрых Энгельс: гэта быў заключны этап у змаганьні двух імпэрыялізмаў за ўладу над сьветам. Абодвы яны былі занадта слабыя і, ня здолеўшы падзяліць сфэры ўплываў, трапілі ў канфлікт.

Такім чынам у вайне 1812 г. справа ня йшла пра інтарэсы расейскага народу, не гаворачы ўжо аб беларускім. Дык, ці ў сьвятле гэтых гістарычных фактаў, пра якія піша Ф. Энгельс, беларускі народ мае разглядаць вайну 1812 году "айчыннай"?

Была гэта клясычная імпэрыялістычная вайна, якіх безьліч ведае гісторыя. Так разумеў яе й прарок беларускага адраджэньня Янка Купала, калі пісаў:

*"Тут з царом расейскім кароль Банапартэ*
*На карту паставілі гонар і славу;*
*Хай льецца салдацкая кроў не на жарты*
*За рускія справы, французкія справы.*

*І кроў палілася па нашых загонах,*
*Бярозы з крывёю зьмяшаліся воды,*
*І льецца за тыя-ж кроў троны, кароны,*
*Якая лілася празь векі і годы".*

Здаецца, што больш выразна, больш яскраза пра вайну 1812 г. на Беларусі, як сказаў Янка Купала, і сказаць нельга. Вайна гэна прынесла беларускаму народу вялікія цярпеньні й няшчасьці. Гаворачы словамі Янкі Купалы: "Народ падняволены йшчэ больш сагнуўся. І шэпча пакорна пракляцьці й малітвы".

Што-ж аднэсіцца да г. зв. "нацыянальна-вызваленчай" барацьбы беларускага народу супраць напалеонаўскіх інтэрвэнтаў", яго ўдзелу ў вайне 1812 г. ды г. зв. "разгорнутай актыўнай партызанкі супраць напалеонаўскіх войскаў", дык праўда, што шэсьць дывізіяў 1-й расейскай арміі складаліся з ураджэнцаў беларускіх губэрняў. Толькі ў 1811 г. адсюль было набрана 14750 рэкрутаў. Але гаворачы сучаснай мовай гэта значыць, што толькі ў 1811 годзе, і то ў парадку прымусовай мабілізацыі, было паклікана ў расейскую армію каля 15

***************************************************

## ФОНД БЕЛАРУСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ

У сувязі з гэтым Бібліятэчная Рада зьвяртаецца да ўсяго беларускага грамадзтва з заклікам складаць ахвяры на фонд Беларускай бібліятэкі й музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане. Было-б пажаданым сабраць як найбольшую суму ў кароткім часе, каб сабраны капітал "працаваў" на Бібліятэку, а не разыходзіўся на штодзённыя патрэбы. Такім чынам "дае двойчы той, хто дае хутка".

Гэта, бязумоўна, не павінна перашкаджаць плянам на далейшую будучыню. Трэба спадзявацца, што Беларусы заўсёды будуць успамагаць Бібліятэку ахвярамі і, паколькі ніхто з нас ня вечны, не забудуцца пра яе ў сваіх тэстамэнтах.

Ахвяры трэба слаць на адрас бібліятэкі:

**The Librarian,**
**The Francis Skaryna Byelorussian Library and Museum**
**37 Holden Road, London N12 8HS,**

прычым чэкі павінны быць выстаўлены не на прозьвішча якой-колечы прыватнай асобы, але на **'The Francis Skaryna Byelorussian Library and Museum'.**

У ЗША ахвяры можна слаць на:

**Byelorussian Relief Fund, Christ the Redeemer Church, 3107 Fullerton Avenue, Chicago, Illinois 60647**

У падобны спосаб у Канадзе Беларусы могуць слаць ахвяры на:

**Byelorussian Charity Fund, Archdiocese of Toronto, Chancery Office, 355 Church St., Toronto, Ont., M5B, 1Z8**

У сваім духовым запавеце Ўладыка Часлаў напісаў, што "Бібліятэка імя Францішка Скарыны ёсьць уласнасьцю ўсіх Беларусаў". Сяньня Беларусы маюць нагоду даказаць на справе праўдзівасьць гэтых слоў і адначасова годна ўшанаваць памяць Уладыкі Часлава, бо Бібліятэка зьяўляецца выдатным і трывалым помнікам у гонар ейнага Закладчыка.

*Лёндан, 10 лістапада, 1981 г.*

*а. Аляксандар Надсон*
Старшыня Бібліятэчнай Рады
*Гай дэ Пікарда*
Сакратар

тысяч ураджэнцаў беларускіх губэрняў, далучаных да маскоўскай імпэрыі ўканцы 18-га стагодзьдзя.

Што-ж датычыцца партызанскага руху, пра які так любіць расьпісвацца савецкая гістарыяграфія, дык ніякага партызанскага руху ў сяньняшнім значэньні гэтага слова ў Беларусі ня было. Былі паўсюдныя сялянскія хваляваньні чыста сацыяльнага характару. Абнадзеяныя лёзунгамі францускай рэвалюцыі, беларускія сяляне дамагаліся вызваленьня ад прыгону. Асабліва стыхійныя сялянскія хваляваньні адбыліся ў ваколіцах Вяліжу й Парэчча, пра што паведамляў Напалеону намесьнік караля Італіі Эжэн у сваім мэмарыяле. Зразумеў гэта, апынуўшыся ў цяжкой сытуацыі, і цар Аляксандар. "У 1812 г. – пісалі Маркс і Энгельс, – калі сялян клікалі запісвацца ў апалчэньне, ім, хоць і неафіцыйна, але з маўклівай згодай імпэратара, было абяцана вызваленьне ад прыгоннай залежнасьці як узнагарода за іх патрыятызм. Ведама, пасьля перамогі Аляксандар адразу забыўся пра гэтыя абяцаньні".

Дорага заплацілі таксама й тыя нешматлікія сяляне, якія з тае ці іншае прычыны і памагалі Расейцам у зьнішчэньні напалеонаўскай арміі. Суровыя расправы й катаваньні наводля тых, што адбыліся ў "партызанскай" вёсцы Жарцы пасьля разгрому Напалеона – найлепшы гэтага прыклад. Таму сяньня гаварыць пра нейкі "партызанскі рух", "нацыянальна-вызваленчую барацьбу" беларускага народу, пра ягоную "айчынную вайну" ў 1812 годзе няма сэнсу, бо цьверджаньні гэтыя нічым неабгрунтаваныя, беспадстаўныя.

На заканчэньне хацелася-б закрануць яшчэ адзін факт, які сам па сабе вельмі сымптаматычны і які выкрывае тэндэнцыйны й хлусьлівы характар савецкай гістарычнай навукі. Справа ў адносінах францускіх войскаў да беларускага насельніцтва. Паводля "Гісторыі Беларускай ССР", т. 1, б. 459: "Зь першых дзён вайны войскі пачалі рабаваць, паліць і спусташаць усё на сваім шляху. Яны забіралі ў насельніцтва коней, жывёлу, прадукты, забівалі жыхароў, абкладалі насельніцтва непасільнымі падаткамі і кантрыбуцыяй".

Ці не зашмат аднабаковае цьверджаньне? А што рабіў другі, расейскі бок? Але зьвернемся да "Гісторыі Беларусі ў XIX і ў пачатку XX ст." праф. Усевалада Ігнатоўскага, выдадзенай у Менску ў 1928 г. Апісваючы кампанію 1812 году на Беларусі, аўтар адзначыў (тады можна было яшчэ гэта рабіць!): "З агульнага ліку рускага войска, каторае даходзіла да 243 000, Беларусь зьмясьціла на сваей небагатай тэрыторыі 157 000, што склала каля 2/3 ўсей збройнай рускай сілы. Гэты факт лёг вялікім эканамічным цяжарам на працоўныя масы Беларусі.

Рускае інтэнданцтва, як і заўсёды, больш апекавалася аб самым сабе, аб царскім прагавітым штабе і галоўных кватэрах арміяў. Салдаты галадавалі. Ратуючыся ад голаду, яны павінны былі самі думаць аб сабе – рабаваць мясцовае жыхарства. Рабункі не перарываліся на працягу ўсей кампаніі. Апроч таго, значная частка харчовага ўтрыманьня арміі была ўзваленая на мясцовыя сродкі і законнымі пастановамі. Аб гэтым былі выданыя вайсковымі ўладамі загады. На аснове цэлага раду прыказаў селянін павінен быў загатаваць вядомую колькасьць прадуктаў для арміі. Дзякуючы ўсяму гэтаму беларускае сялянства апынулася ў вельмі цяжкім палажэньні. Вядома, напрыклад, што ў паўднёвых паветах Віленшчыны сялянства засталося зусім бяз хлеба і дашло да таго, што карміласядо ўсякімі сурагатамі, што выклікала хваробы і высокую сьмяротнасьць сярод жыхарства.

Кампанія, як вядома, адбывалася на Беларусі летам і ўвосень, у самы рабочы час. Апрача таго, што край руйнаваўся, рабочыя сілы адцягваліся ад штодзённай вяскова-гаспадарчай працы, перарывалася работа селяніна, што давала хлеб на цэлы год. На падставе вайсковых прыказаў, "усе дарослыя мужчыны, што маюць аселасьць каля граніцы, павінны быць узброеныя пікамі і трымаць грамадзкія варты". З другіх дакумэнтаў мы бачым, што такія грамадзкія варты былі ўтвораныя па ўсёй Беларусі.

Пастаяўшы некалькі месяцаў і значна спустошыўшы край, руская армія пачала адыходзіць на ўсход, адступаючы перад францускай арміяй".

Гаворачы-ж пра Французаў і г. зв. "партызанаў", Усевалад Ігнатоўскі піша (б. 39): "У сярэдзіне лістапада адбываецца на Беларусі добра вядомая Бярэзінская катастрофа... Арганізаванай арміі засталося толькі каля 10 000 чалавек, пры 24 гарматах. Рэшта, у некалькі сот тысяч чалавек, неарганізаваным, галодным, разьдзетым і разутым натоўпам, як шаранча, пакрывае Беларусь. Беларусь перажывае ўсе жахі неарганізаванага, масавага адступленьня шматтысячнай арміі. Раней каля Ашмян, потым каля Вільні пачынаюць сваю дзейнасьць партызаны Сеславіна. Лічачы ўсё мясцовае жыхарства хаўрусьнікамі Французаў, яны вядуць сябе на Беларусі як у забраным краі".

Не забывайма, што цьверджаньні свае Ўсевалад Ігнатоўскі абапіраў на дакумантах. Бязумоўна, гэтыя дакумэнты не ўвайшлі ў 4-ты том зборніка "Белоруссия в эпоху феодализма", які быў выдадзены ў 1979 годзе і падрыхтаваны Галоўным Архіўным Упраўленьнем пры Савеце Міністраў БССР, Інстытутам Гісторыі АН БССР. А не ўвайшлі, бо, з аднаго боку іх публікацыя пазволіла-б дасьледнікам пазнаць усю праўду пра вайну 1812 г. на Беларусі, а з другога – здэмаскавала-бы ўсю хлусьню пра г. зв. "айчынную вайну", пра тое, што нібыта вайна 1812 году для Беларусаў была вайной "народнай" і, галоўнае, перашкодзіла-бы спробам Масквы тварыць тэзы пра "непарушнае яднаньне народаў Савецкага Саюзу".

***В. Сянкевіч***

## ВЫСОКІ КОШТ УТРЫМАНЬНЯ ВЕТНАМУ

Савецкі Саюз пераконваецца, што кошт утрыманьня сатэліта Ветнаму ня толькі высокі, але можа прадаўжацца ў нясконачанасьць. Японская разьведка падлічыла, што Расейцы штодзённа выдаюць каля 6 міл. дал. у Ветнаме, а гадавая помач (апроч коштаў ваенных уладжаньняў ды Ляосу й Кампучэі) перавышае два міліярды даляраў. На харчы й зброю для аграмаднае ваеннае машыны Ганою выдаецца 4 міліёны даляраў на дзень; эканамічная помач каштуе перацятна 745 міліёнаў даляраў у год.

За адзін 1979 год Савецкі Саюз выдаў 500 міл. дал. на закупы харчоў для Ветнаму. Летась харчавая сытуацыя ў Ветнаме пагоршала; прадукцыя рысу не дасягнула вызначанай нормы 21 міліёна тонаў ажно на 10

жахлівых міліёнаў. Ёсьць прычыны верыць, што й сёлетнія рэзультаты не палепшацца. Ужо чуваць заклікі помачы з Кампучэі. Падаюцца розныя прычыны мізэрных плёнаў сельскае гаспадаркі, уключна з засухамі, паводкамі й тайфунамі. Бязумоўна, не абыйшлося й бяз гэтых прычынаў, але галоўнай бядою сталася ідэялягічная нясуладзіца, якую ствараылі плянавікі Ганою ў дэльце Мэконгу.

Навет, калі-б яны й плянавалі катастрофу, то не маглі-б яе зрабіць лепшай ці горшай. Трывогу спрычыніў загад пра масавае перасяленьне сялянаў з дэльты Чырвонай Ракі ў дэльту Мэконгу. Пасьля-ж сяляне на паўдні даведаліся, што ня толькі страцяць сваю зямлю, але й дамы, што прыйдзе калектывізацыя й заміж працы на сваіх землях іх перасяляць у новазбудаваныя сельскія мястэчкі.

Сустрэўшы вялікае абурэньне, Ганой крыху зьіначыў свае пляны, але нічога не зрабіў, каб палепшыць сельскую прадукцыю. Даведаўшыся, што ня могуць рэзаць і есьці сваіх сьвіньней і качак без дазволу ўладаў, сяляне перасталі іх гадаваць.

Некалі кітайскія купцы з Шалону пазычалі грошы для гадоўлі рысу і на ўгнаеньне, пасьля-ж жніва скуплялі рыс, малолі яго й пасьля прадавалі. У 1979 годзе ім забаранілі гандляваць і тады настаў хаос. Навет Расейцы, што ў сябе дома няўмела гаспадарылі, пабачылі бязглуздасьць ладу Ветнамцаў. У чырвені, 1980 г. савецкая дэлегацыя зрабіла разьведку ветнамскай эканоміі й пераканалася, што савецкая помач належна не выкарыстоўвалася.

Каб заплаціць за расейскую помач, Ветнамцы пасылалі ў Савецкі Саюз водку; гэта давала магчымасьць прадаваць высокай якасьці расейскую водку на захадзе, каб здабыць замежную валюту. Апошнім экспортам зьяўляецца ветнамская рабочая сіла і ўжо дзясяткі тысяч работнікаў паслалі ў Савецкі Саюз; на якіх умовах яны адпраўлены, не гавораць.

Выглядае, што ў будучыні Расейцы праўдападобна здабудуць даволі нафты з Паўдзённага Кітайскага мора, каб задаволіць патрэбы Ветнаму й свайго Далёкага Ўсходу. Аднак, што найважнейшае, яны цяпер атрымалі базы ў Кам Ран Бэй і Данангу. І Ганой, і Масква запярэчваюць, што Расейцы атрымалі правы базаў. Ці ёсьць фармальная ўмова, – гэта пытаньне. Выглядае, што Расейцы карыстаюцца базамі без абмежаваньняў і, каб забясьпечыцца на будучыню, будуюць сталыя інсталяцыі, уключна із сховамі для падводных лодак, падземныя батарэі артылерыі для берагавой абароны й падземныя сховы гаручага. Як выглядае, Кам Ран Бэй ёсьць неабходным для ўстрыманьня Кітаю й забясьпечаньня прыстані для караблёў у руху між Індыйскім і Ціхім акіянамі. Ён-жа ёсьць неабходным цяпер і для Ветнамцаў, якім пагражае Кітай на паўночнай мяжы. Прынамся, пакуль адыйдзе старэйшае пакаленьне ветнамскіх правадыроў, не прадугледзіцца зьменаў у зносінах між Ганоем і Пэкінам.

Хоць Расейцы маюць выдатныя здольнасьці засьмечваньня свайго гнязда, як мы бачылі ў Эгіпце й Самалі, у прадбачанай будучыні Ветнам напэўна астанецца савецкім сатэлітам і Масква будзе змушаная плаціць кошты рахункаў.

*Denis Warner, Toronto Sun, 5.1.1982*

## СВАІМІ СІЛАМІ

***Да ўгодкаў заняцьця Менску беларускімі адзьдзеламі.***

"19-га лютага раніцою наша варта адчула, што ў горадзе робіцца штосьці нязвычайнае. Раўлі аўтамабілі, трашчалі матацыклеткі, імкнучыся з шалёнай хуткасьцяй па ўсяму Менску. Міма нашых панурых, з заржавелымі кратамі, вокнаў некалькі разоў праімчаліся грузавікі з кучкамі ўзброеных жаўнераў.

Нарастала паніка.

Апоўдні зьмянілася варта і прынесла навіны:

"Немцы йдуць".

Нас, Беларусаў, сядзела шэсьць чалавек. Зразумела, усе яны абвінавачваліся ў "контррэвалюцыі" (за іншыя злачынствы не садзілі). Мы замкнуліся ў асобны пакой і праз пяць хвілінаў пастанавілі:

"Уцякаць неадкладна".

Плян быў надзвычайна просты й дзёрзкі. Праз дзьве гадзіны ўсе мы сабраліся ў дамоўленым месцы. Яшчэ праз гадзіну адбылося надзвычайнае паседжаньне Выканаўчага Камітэту Беларускай Цэнтральнай Вайсковай Рады, на якім было пастаноўлена: "З прычыны відавочнага імкненьня Народнага Камісарыяту Заходняй Вобласьці ўцякаць на ўсход і ў сувязі з прыблізьненьнем Немцаў ды магчымасьці анархіі ў горадзе – узяць на сябе ахову парадку і бясьпекі ў Менску, а калі зойдзе патрэба дык і ўва ўсей Беларусі а таксама запрапанаваць Выканаўчаму Камітэту Рады 1-га Ўсебеларускага Зьезду выканаць волю Кангрэсу і ўзяць уладу ў свае рукі".

Зараз-жа былі накінутыя пункты адносна пераняцьця і замацаваньня ўлады за Беларусамі; тут-жа была сарганізаваная камандатура і сувязь. Лёс распарадзіўся, каб камандантам быў я".

Гэты ўрывак мы ўзялі з успамінаў Кастуся Езавітава, што былі зьмешчаныя (парасейску) у 1-м нумары беларускага літаратурна-грамадзкага, навукова-гістарычнага і эканамічнага штомесячніка "Варта", які выйшаў у кастрычніку 1918 г., пад загалоўкам:"Вызваленьне Менску. 19 і 20 лютага 1918 году ў Менску" Запіскі Каманданта.

Будзе марнаваньнем часу шукаць гэтыя ўспаміны ў зборніку "Великая Октябрьская Социалистическая Революция в Белоруссии (Документы и материалы), т.2 (Кастрычнік 1917 – сакавік 1918), выдадзеным у 1957 г. Ні слова пра заняцьцё Менску беларускімі адзьдзеламі і ў 12-м томе "Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі" на бач. 136-137, дзе гаворыцца пра "Беларусь у пэрыяд грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвэнцыі". Маўчаць пра гэтую падзею і аўтары "Гісторыі Беларускай ССР". У 3-м томе, на бачыне 99-й адзначаецца толькі, што ў першыя дні наступленьня нямецкіх і аўстра-вугорскіх дывізіяў "на цэнтральным напрамку праціўнік захапіў Дзьвінск, Менск, Полацак, Воршу і іншыя гарады..." Абыходзіць поўным маўчаньнем гэтае пытаньне і Н. Гракаў у сваей працы "Коммунисты Белоруссии в борьбе за советскую власть в период немецкой оккупации (1918 г. – февраль 1919 г.)" які на бачыне 6-й адзначае адно, што "на працягу колькіх дзён нямецкія войскі акупавалі тэрыторыю амаль усёй Беларусі".

Затое крыху нацш паступіў гісторык Вадзім Круталевіч, ведамы "спэцыяліст" у БНР-аўскіх пытаньнях, які ня толькі згадвае гэтую падзею, але і спыняецца на ёй больш падрабязна. Праўда, да Круталевіча пісаў пра тое, што Выканаўчы Камітэт Рады Ўсебеларускага Зьезду выйшаў з падпольля і ўзяў уладу ў свае рукі, абвяшчаючы 1-ю Ўстаўную Грамату, Е. Саўчук у сваім артыкуле, што быў надрукаваны п. наз. "Зь гісторыі змаганьня бальшавікоў супраць беларускага буржуазнага нацыяналізму ў пэрыяд нямецкай акупацыі Беларусі ў 1918 г." у 37-м выпуску "Вопросов Истории БССР" за 1969 год. Зразумела, як цяпер прынялося ў "сувэрэннай" БССР, пісаў ён парасейску. Але Саўчук вельмі скупы на дэталі. Круталевіч-жа, у нарысе "Ходам гісторыі", зьмешчаным у №7 "Полымя" за 1972 год, піша:

"Пасьля эвакуацыі Аблвыканкомзаха 19-га лютага 1918 году Менск астаўся бяз улады. Кіраўнікі беларускіх нацыяналістычных арганізацыяў вырашылі скарыстаць момант для рашучых дзеяньняў. Вядомы К. Езавітаў, які разам зь некаторымі іншымі сябрамі Беларускай Цэнтральнай Вайсковай Рады сядзеў пад вартай за контррэвалюцыйную дзейнасьць, у той сумятні ўцёк спад арышту. Пазьней у адным з сваіх артыкулаў літаральна па мінутах ён расьпісаў усе захады для захопу ўлады ў Менску 19 лютага 1918 году. Хутка пасьля ўцёкаў адбылося, як ён піша, надзвычайнае паседжаньне Выканаўчага Камітэту Беларускай Цэнтральнай Вайсковай Рады, у свой час распушчанай Саўнаркомам Заходняй вобласьці. Было вырашана "ўзяць на сябе ахову парадку і бясьпекі ў Менску".

Зьявілася, — працягвае Круталевіч, — "беларуская камандатура", якая заняла дом губэрнатара на плошчы Свабоды. "Быць камандантам, — з надзвычайнай амбіцыяй пісаў К.Езавітаў, — лёс загадаў мне". Ставілася задача авалодаць важнейшымі аб'ектамі гораду: цэнтральнай тэлефоннай станцыяй, тэлеграфам, будынкам штабу па барацьбе з контррэвалюцыяй, дзе, дарэчы заўважыць, было захоплена нямала зброі. Плошча "Свабоды" стала "засяродзеньнем беларускіх сілаў".

Хоць Круталевіч некаторыя факты й перакручвае (Аблвыканкомзах не "эвакуаваўся а быў вымушаны ўцякаць, а Саўнарком Заходняй вобласьці Выканкому БЦВР ніколі не "распускаў"), некаторыя-ж зноў замоўчвае, як, напрыклад, дакладную дату прыбыцьця ў Менск нямецкіх войскаў, а гэта, як пабачым, вельмі важны факт, ды піша з пэўнай дозай іроніі і пагарды да Кастуся Езавітава й наагул "беларускіх буржуазных нацыяналістаў", ён усётакі пра гэтую падзею піша.

Мала гэтага, Круталевіч навет удакладняе, што, маўляў, "Беларускім нацыяналістам рэальная ўлада ў Менску патрэбная была як база рэалізацыі акцыяў больш шырокага палітычнага маштабу. Таму, дасягнуўшы некаторых посьпехаў, яны вырашылі абвесьціць пераход дзяржаўнай улады ва ўсім краі да органаў, якія яны пасьпешна стварылі. З тактычных мяркаваньняў — адзначае далей аўтар, — гэта трэба было зрабіць як мага хутчэй, каб паставіць нямецкае камандаваньне перад зьдзейсьненым фактам. Так зьявілася "Першая ўстаўная грамата да народаў Беларусі", апублікаваная 21-га лютага 1918 году ад імя выканаўчага камітэту рады Беларускага зьезду, распушчанага Саўнаркомам Заходняй вобласьці ў сьнежні 1917 г. Абвесьціўшы сябе "адзіна законнай і паўнамоцнай уладай" у Беларусі, выканком рады зьезду стварыў "выканаўчую ўладу", т. зв. народны сакратарыят, якому даручалася... "абарона заваёваў рэвалюцыі".

А гэта ўжо, як на савецкага гісторыка, даволі многа! Усё гэта В. Круталевіч паўтарыў пазьней у сваей працы "Рождение Белорусской Советской Республики", выдадзенай у 1975 годзе.

Але вернемся да пытаньня заняцьця Менску й да падзеяў, што прывялі да гэтага. Удакладнім некаторыя мамэнты. Спачатку-ж спынімся на пытаньні даты акупацыі Менску нямецкімі войскамі.

У 4-м томе "Вялікай Савецкай Энцыкляпэдыі" (2-ое выданьне), на бач. 528 пішацца: "18 лютага 1918 г. — пачатак наступу на савецкую краіну войска нямецкіх імпэрыялістых пасьля зрыву мірных перамоваў у Берасьці. 20-21 лютага — захоп Менску." З гэтай энцыкляпэдыі выглядае, што Менск занялі Немцы.

Аднак прафэсар Усевалад Ігнатоўскі ў "Кароткім нарысе гісторыі Беларусі" працы выдадзенай у 1925 г., піша: "Савецкая ўлада на Беларусі не магла доўга застацца. На ўсход пашыралася моцная кайзераўская армія, якая і заняла Менск 25 лютага 1918 г."

Такім чынам зь дзьвюх савецкіх крыніцаў — энцыкляпэдыі і працы Ігнатоўскага — пра захоп Менску мы маем дзьве розныя даты. Якая-ж праўдзівая? Адказ — у запраўднасьці, хоць гэта і гучыць парадаксальна, усё-ж абедзьве даты правільныя, хоць кажная датычыць іншай падзеі. Гэтак, правільна, як падае энцыкляпэдыя, што з пачатку нямецкага наступу 18 лютага бальшавікі пакінулі Менск, і правільна тое, як падае Ігнатоўскі, што 25 лютага Немцы занялі Менск. Узьнікае пытаньне: чаму аж цэлы тыдзень да прыходу Немцаў у Менск бальшавікі ўцяклі зь яго? Аб гэтым ні савецкія публіцыстыя ні гісторыкі да гэтага часу не гаварылі, бо гэта нявыгадна для савецкай інтэрпрэтацыі тагачасных падзеяў. І толькі Вадзім Круталевіч у сваім згаданым нарысе дае зразумець, што "кіраўнікі беларускіх нацыяналістычных арганізацыяў вырашылі скарыстаць момант для рашучых дзеяньняў".

Адказ на пастаўленае намі раней пытаньне знаходзім у № 1-м воргану ЦБ КП(б)Б — часапісе "Вперед", выдадзеным 50 гадоў перад зьяўленьнем нарысу Круталевіча, у 1922 годзе. У гэтым часапісе былы старшыня Савету Народных Камісараў Заходняй вобласьці й Фронту — Ляндэр — апісвае што змусіла бальшавікоў за тыдзень да прыходу Немцаў уцякаць (паводля Круталевіча "эвакуавацца") зь Менску. Ён пісаў:

"У горадзе пачаўся рух "беларусаў", якія рыхтавалі выступленьне супраць нас. На вуліцах пачаліся дробныя сутычкі, чуваць была страляніна. Калі тав. Пятроў, камандант Савету, вечарам выводзіў мяне із савету чорным ходам, з параднага ўжо ўварваліся ўзброеныя банды, якія шукалі мяне й таварышоў".

Няважна, што Ляндэр называе беларускія нацыянальныя адзьдзелы "бандамі"; для бальшавікоў кажны працаўнік гэта бандыт. Афганскія патрыёты, якія змагаюцца супраць маскоўска-бальшавіцкай акупацыі — таксама "бандыты". Але важна тое, што ня Немцы выгналі бальшавікоў зь Менску, а беларускія адзьдзелы. Зрабілі яны гэта на загад Выканаўчага Камітэту Рады Беларускага Кангрэсу, якая ў часе гэтае кароткае

бальшавіцкае акупацыі дзеяла нелегальна (хоць Крыталевіч цьвердзіць, што яна была"распушчаная").

Такім чынам, як бачым, заняцьцё Менску беларускімі нацыянальнымі адзьдзеламі можна лічыць першай запраўднай перамогай Беларускай Народнай Рэспублікі над маскоўскім бальшавізмам. У вайсковым сэнсе . рамога гэта нязначная, але ў гістарычнай пэрспэктыве – гэта вельмі важны мамэнт: гэта быў пачатак збройнага змаганьня беларускага народу супраць бальшавізму, змаганьня за свабоду й незалежнасьць. Сымболіка гэтага акту – відавочная. Яна набірае яшчэ большага значэньня на фоне падзеяў таго часу, падзеяў, якія варта прыгадаць.

Як ведама, у пачатку 1918 году (тут мы асноўваемся на артыкуле беларускага навукоўца Г. Паланевіча "Нацыянальная тэорыя й практыка бальшавізму ў Беларусі", зьмешчаным у 12-й кнізе "Беларускага Зборніка" за 1960 год) "Рада Кангрэсу із свайго канспірацыйнага падпольля выпусьціла першы заклік, у якім называла сябе адзіным праўным носьбітам сувэрэннага права беларускага народу. Беларуская Цантральная Ваенная Рада атрымлівае ад Рады Кангрэсу заданьне падгатоўкі да заваяваньня ўлады ад бальшавікоў. Увага засяроджваецца на фармаваньні й канцэнтрацыі ў Менску нацыянальных ваенных адзінак. У пачатку году ўдаецца перацягнуць у Менск 289-ты запасны пяхотны полк якога 75% складалі Беларусы.

Бальшавікі ў гэты час твораць Чырвоную армію. Сябры Беларускай Ваеннай Рады прабавалі выкарыстаць гэта й пачалі перамовы з бальшавіцкім галоўнакамандуючым Крыленкам аб фармаваньні Беларускай Нацыянальнай Чырвонай арміі. Перамовы праваліліся: бальшавікі разгадалі імкненьне Беларусаў і ня толькі не згадзіліся з прапазыцыяй Беларускай Ваеннай Рады, але загадалі 20 студзеня 1918 году апору БВР – 289-ты запасны полк – перавесьці зь Менску, а ноччу з 31-га студзеня на 1-ае лютага 1918 г. арыштавалі выдатнейшых кіраўнікоў Рады Кангрэсу й Цантральнай Рады. У гэтым часе наступае разрыў у Берасьцейскіх мірных перагаворах і Немцы пераходзяць у наступ. Бальшавіцкі фронт рассыпаецца а іхныя ўлады 18-га лютага 1918 г. на чале з галоўным камісарам Заходняй вобласьці Ляндэрам уцякаюць зь Менску...

19-га лютага арыштаваныя дзеячы Беларускай Ваеннай Рады – К. Езавітаў, Я. Мамонька, В. Захарка і іншыя зарганізавалі ўцёкі з турмы. Яны й былі арганізатарамі ўстанаўленьня ўлады Рады Кангрэсу. Выканаўчы Камітэт Рады Ўсебеларускага Кангрэсу цяпер абвесьціў сябе часовым урадам, а выканаўчую ўладу паручыў створанаму Народнаму Сакратар'яту Беларусі. Гэта быў першы нацыянальны ўрад Беларусі. Адразу-ж быў створаны Менскі Беларускі полк і гарадзкая міліцыя. Узноўленыя мірныя перагаворы ў Берасьці заканчваюцца 3-га сакавіка падпісаньнем мірнае ўмовы, на аснове якое бальшавікі, наперакор сваім ранейшым абяцанкам вуснамі Сталіна й Троцкага "абаранящь пазыцыі Беларусаў", згаджаюцца на разьдзел Беларусі між суседнімі дзяржавамі.

Тады, 9-га сакавіка 1918 г., - працягвае далей Г. Паланевіч, – Выканаўчы Камітэт Рады Кангрэсу выдаў Другую Ўстаўную Граммату, якой абвяшчалася Беларуская Народная Рэспубліка (БНР) на тэрыторыі ўсей этнаграфічнай Беларусі, а 19-га сакавіка Выканаўчы Камітэт Рады Кангрэсу перайменаваўся ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі... Расшыранае паседжаньне Рады БНР 25-га сакавіка 1918 г. абвесьціла Беларускую Народную Рэспубліку незалежнай, аб чым была выдадзеная Ўстаўная Грамата, якая ўвайшла ў гісторыю беларускага нацыянальна-вызвольнага руху як Акт 25-га Сакавіка".

Гэта вось і былі ў асноўным падзеі й факты, кульмінацыйным мамэнтам якіх было абвешчаньне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, 64-я ўгодкі якога мы сёлета і адзначаем. Прамоўчваючы гістарычныя факты, або проста хвальшуючы іх, савецкая прапаганда й гістарыяграфія хочуць давесьці, што толькі бальшавікі дапамагалі Беларусам нацыянальна ўсьведаміцца й далі ім пасьля уласную дзяржаўнасьць, пры чым, (выкідаючы з нашае гісторыі 600-гадовы пэрыяд нашае дзяржаўнасьці ў форме Вялікага Княства Літоўскага) упяршыню ў гісторыі беларускага народу. Змаганьне-ж за запраўдную незалежнасьць, за ўзнаўленьне беларускае дзяржаўнасьці, яны разглядаюць як нямецкія, а часамі навет польскія інтрыгі.

Яны разьлічваюць на тое, што цяперашняе беларускае пакаленьне асабіста ня ведае тагачасных падзеяў, а замкнуўшы тагачасныя дакумантальныя публікацыі ў архівах, ці зьнішчыўшы іх ніхто не даведаецца як было ў запраўднасьці. Але гэта дарэмныя намогі! Той факт, што кампартыя пазволіла В. Крыталевічу (і некаторым іншым гісторыкам) пісаць пра падзеі таго часу, так як яны цяпер пішуць, – пацьверджаньне нашых выснаваў.

Як мы змаглі пабачыць, ні нямецкія, ні польскія інтрыгі спрычыніліся да заняцьця Менску й абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Не! Беларусы зрабілі гэта сваімі рукамі, сваімі собскімі сіламі.

*Язэп Барэйка*

## ЗЬНЯВАЖЫЛІ ПАМЯЦЬ ПАЭТА

Летась у паняволенай Беларусі сьвяткавалі 90-я ўгодкі нарадзінаў Максіма Багдановіча. Славілі вялікага "песьняра чыстае красы" як маглі, у прэсе, радыё тэлебачаньні, на спэцыяльных урачыстасьцях.

А вось помнік на магіле паэта ў Ялце (здымка зь "Літ. і Маст", № з 4.XII. 1981г. На помніку пяцікутная зорка... Знак бязбожнасьці й ня навісьці, зьнявага памяці Вялікага Паэта.



Ля магілы М. Багдановіча.

## ДЗЕНЬ ГЭРОЯЎ У НЬЮ БРАНСВІКУ

Традыцыйна, Слуцкія ўгодкі ў Нью Брансвіку, Нью Джэрзі сьвяткуюцца з двухдзённай праграмай. Гэтак і летась 28-га лістапада нашы руплівыя суродзічы ўдэкаравалі магілы вэтэранаў, сяброў Рады БНР і тых, што выхоўвалі змагароў за волю беларускага народу.

Пасьля быў зложаны вянок перад помнікам Беларускім Гэроям у прысутнасьці сьцяжной варты вэтэранскага сьцягу. Адданы салют з трох стрэлаў і прасьпявалі жалобную песьню "Сьпі пад курганам гэрояў".



*Сьцяжная Варта пры Помніку Беларускім Гэроям.*

У нядзелю 29-га лістапада ў БАПЦаркве Жыровіцкай Божай Маці ў Гайланд Парку паніхіду за гэрояў адслужыў а. Аляксандар, з помачай дыякана Якуба і ў прысутнасьці сьцяжной варты. Пасьля паніхіды ўдзельнікі сабраліся на залі на вэтэранскую перакуску.

А 2-й гадзіне пасьля паўдня распачаўся ўрачысты сход, які адкрыў камандзер Усходняга Ўзьбярэжжа Сяргей Гутырчык. Камандзер падаў каманду – салют да сьцягу! Адсьпявалі "Беларусь – наша Маці Краіна".

Рэфэрат на тэму дня чытаў Кастусь Мярляк.

Ад Галоўнай Управы БАЗА з прамовай выступаў старшыня А.Шукелойць. Коратка гаварыў і а. Аляксандар.

Быў паказаны апрацаваны Алегам Дубягам каляровы, з голасам, фільм зь беларускага жыцьця.

Урачысты сход закончыўся беларускім нацыянальным гімнам. Гэтай дарогай складаю шчырую падзяку прамоўцам, Юрку і Ноне Азаркам і Управе Вэтэранаў.

*Сяргей Пчала*



*Паніхіда за паўшых Гэрояў у Царкве Жыровіцкай Божай Маці ў Гайланд Парку.*

Здымкі А. Дубягі



*Так выглядаў удэкараваны нацыянальнымі сьцяжкамі й вянкамі беларускі могільнік у дзень угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну.*

**************************************************

### *УВАГА!*

***Наступны нумар "Зважай" выйдзе ў чырвені. Усе матар'ялы ў гэны нумар просім дасылаць не пазьней як да 15-га травеня.***

**************************************************

## УВАЗЕ ЧЫТАЧОЎ!

У параўнаньні зь іншымі краінамі, канадыйская пошта яшчэ летась была даволі танная – 17 цэнтаў за ліст першае клясы, 35 цэнтаў за ліст паветранай поштай. Але летась перад Калядмі ўрад пастанавіў падняць цэны, і гэтак ад Новага Году ліст першае клясы каштуе трыццаць цэнтаў у Канадзе, трыццаць пяць за мяжу, а паветанай – 65 цэнтаў, значыцца ўсе цэны падвысілі амаль у два разы. У сувязі з гэтым і кошт выданьня ды рассылкі "Зважай" падвысіўся на 25%. Просім нашых добразычлівых суродзічаў і вэтэранаў узяць гэта пад увагу.

"Зважай".

## ФОНД "ЗВАЖАЙ"

Ад 12-га лістапада летась да 15-га лютага сёлета "Зважай" атрымаў наступныя падпіскі й ахвяры:

М. Нікан – 25,00 дал., др. Я. Сажыч – 25,00, др. Б. Рагуля – 20,00, др. Л. Трусэвіч – 23,00. Ул. Цьвірка – 20.00, М. Грэбень – 70,00, М. Махнач – 23,00, К. Акула – 10,00, М. Шуст – 10,00, К. Каранеўскі – 10,00, А. М. – 10,00, С. П. Г. – 40,50, Ю. Весялкоўскі – 11,25, В. Сергі (пераслана раней) – 20,00, А. Міцкевіч – 11,50, А.А. – 1,15.

Разам 330 дал. 40 ц.

Усім ахвярным суродзічам вялікае дзякуй!